Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№41 (601) 13 кастрычніка 2011 года
Кошт свабодны.




## Мёрскі раён

# Невыпадковае пастаянства

■ Станіслаў Раманчук

**Увайсці ў лік лепшых працаўнікоў краіны сярод хлебаробаў заўсёды было няпроста, бо там высокая канкурэнцыя і людзі імкнуцца зарабіць падчас жніва як мага болей грошай.**

Аднак на нядаўніх “Дажынках” у Маладзечне малады камбайнер Дзмітрый Лакатко з сельгаспрадпрыемства “Гвардзейскі” Мёрскага раёна пабываў чацвёрты раз у жыцці. Сярод маладых удзельнікаў уборкі ў Беларусі ён ужо быў двойчы названы лепшым камбайнерам і столькі ж разоў уваходзіў у лік прызёраў. Сёлетняя перамога была адзначана прэміяй у 9 млн. рублёў і каштоўным падарункам – камп’ютарам – у дадатак. Аднак асабліва прыемна было хлопцу, што на гэты раз ён паехаў на такое маштабнае мерпрыемства не адзін, а з родным чалавекам. Упершыню лаўрэатам рэспубліканскіх “Дажынак” стаў і яго бацька Іван, які намалаціў збожжа прыкладна столькі, колькі і сын – болей за 1500 тон. Вядома, поспех у гэтай справе залежаў і ад усяго калектыву гаспадаркі, бо, каб сабраць столькі збажыны, найперш трэба вырасціць і дагледзець цэнтнеры хлеба. Ды і сямейнае свята Лакаткоў цягнулася два дні. У першы дзень прымаў віншаванні на сцэне амфітэатра сын, а затым ужо главе дынастыі пацісную руку віцэпрэм’ер урада і ўручыў падарунак за 3-е месца ў спаборніцтве – хaладзільнік. За сваіх родных шчыра радаваўся і малодшы сын Андрэй, які працуе ў гэтай гаспадарцы вадзіцелем.



## Полацкі раён

# Вучыцца і вучыць па-новаму

■ Чэслаў Якубовіч

**Напярэдадні прафесійнага свята педагогаў у Мінску завяршыўся чарговы рэспубліканскі конкурс прафесійнага майстэрства “Настаўнік года-2011”.**

З асаблівым хваляваннем настаўнікі і вучні з Полацка сачылі за ім, бо ў суперфінал здолеў прабіцца іх калега і любімы настаўнік фізікі, дырэктар СШ № 18 Дзмітрый Шыц. У рашаючы этап конкурсу былі адабраны 3 лепшыя педагогі Віцебшчыны, а ўсяго 21 удзельнік. У суперфінале з іх засталіся шэсць, толькі тыя, хто набраў большую колькасць балаў. Члены журы былі прыемна здзіўлены, як Дзмірый на адкрытых уроках выкарыстоўвае сучасныя сродкі выкладання аднаго з самых складаных прадметаў школьнай праграмы. Фізіку зараз можна вучыць і пры дапамозе флэш-анімацыі і іншых мультымедыйных сродкаў. Але пры гэтым па-ранейшаму застаецца важным майстэрства педагога, яго чалавечыя якасці і інтэлект, каб дзецям было цікава засвойваць веды. У суперфінале гэтага конкурсу сышліся менавіта такія яркія асобы. Аднак журы прыйшлося рашыць няпростую задачу і вызначыць пераможцаў. У выніку набраная сума балаў прынесла Дзмітрыю Шыцу, адзінаму прадстаўніку вобласці, ганаровае 4-е месца. За гэта дасягненне ён атрымаў нагрудны знак “Выдатнік адукацыі”. Галоўны прыз – “Хрустальны журавель” – дастаўся выкладчыцы з гімназіі № 1 горада Дзятлава (Гродзенская вобласць) Інэсе Зубрылінай.

## Пастаўскі раён

# Быццам на нябачнай вайне

■ Кастусь Александровіч

**З-за трывожнай сітуацыі з пажарамі ў вобласці, дзе за 9 месяцаў загінула ў агні 149 чалавек, на працягу кастрычніка паўсюдна ў рэгіёнах праходзіць месячнік па навучанні насельніцтва правілам пажарнай бяспекі.**

Актуальнай гэта праблема стала і для Пастаўскага раёна, дзе сёлета назіраецца істотны рост колькасці вогненных здарэнняў. Толькі цудам у адну з восеньскіх начэй не загінула пажылая сямейная пара ў райцэнтры. Там дабротны дом на адной з вуліц прыватнай забудовы загарэўся вечарам. Асабліва моцна гарэла яго драўляная веранда, дзе прылёг адпачыць з непатушанай цыгарэтай гаспадар. Едкі дым напоўніў усё памяшканне, прыбыўшыя выратавальнікі змаглі вывесці жонку. Застаўся жывым і яе муж, хоць атрымаў апёкі цела на плошчы 5 працэнтаў і таксама наглытаўся прадуктаў гарэння. Абодвух падаспеўшыя медыкі накіравалі для папраўкі здароўя ў мясцовую райбальніцу. Праз некалькі дзён каля апоўначы апаратыўнаму дзяжурнаму паступіў сігнал аб пажары драўлянага вагончыка пасярод пашы паблізу вёскі Бялянішкі, што ў прыгранічным Лынтупскім сельсавеце. У ім знайшоў сваю пагібель 57-гадовы жывёлавод, пастух-вартаўнік. Прычыны яго смерці высвятляюцца, але найбольш верагодная – неасцярожнае абыхаджанне з агнём у нецвярозым стане. Па гэтай прычыне, дарэчы, сёлета на Пастаўшчыне агонь забраў жыцці 8 чалавек і зафіксавана 45 пажараў. На дарогах раёна абстаноўка таксама не лепшая: у розных ДТЗ траўміраваны альбо загінуў 21 мясцовы жыхар.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 13.10.11 | | | | пятн. 14.10.11 | | | | сб. 15.10.11 | | | | нядз. 16.10.11 | | | | пн.17.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +3 | +4 | +6 | +4 | +4 | +3 | +6 | +3 | 0 | 0 | +3 | 0 | -1 | -1 | +4 | -1 | -1 | 0 | +5 |
| Ціск, мм | 739 | 741 | 742 | 745 | 747 | 749 | 752 | 754 | 754 | 754 | 756 | 758 | 759 | 759 | 759 | 757 | 756 | 755 | 755 |
| Вільготнасць, % | 89 | 92 | 83 | 89 | 92 | 96 | 79 | 86 | 81 | 89 | 65 | 79 | 89 | 85 | 55 | 81 | 82 | 86 | 64 |
| Вецер м/сек | С-З 4 | З 4 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 5 | С 5 | С 6 | С-В 4 | С 4 | С 3 | С-В 5 | В 3 | С 1 | Ю 2 | З 2 | Ю 3 | Ю-З 2 | Ю 3 | Ю-З 2 |
| | | 07:35 | 18:16 | | | 07:36 | 18:13 | | | 07:38 | 18:11 | | | 07:40 | 18:08 | | | 07:42 | 18:06 | |
| | | 18:09 | 09:13 | | | 18:32 | 10:23 | | | 19:02 | 11:30 | | | 19:41 | 12:32 | | | 20:32 | 13:26 | |

# Лічба нумара

**708** столькі мільярдаў рублёў, па дадзеных урада, пайшло сёлета на падрыхтоўку і правядзенне ў горадзе Маладзечна юбілейнага XV рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2011”. У адрозненне ад іншых афіцыйных сялянскіх святаў, у гэтым годзе палову выдзеленых сродкаў асвоілі датэрмінова, яшчэ да дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Раней рэканструкцыя розных аб’ектаў сацыяльнай сферы ў “сталіцах “Дажынак” вялася ў аўральным тэмпе, ледзь ці не да апошняй ночы перад пачаткам мерапрыемства.

А вось цяпер маладзечанцы пры падтрымцы абласнога кіраўніцтва (Міншчына да таго ж сабрала болей за ўсіх у краіне збожжа – каля 2 млн. тон) змаглі адрамантаваць і мадэрнізаваць 164 розныя аб’екты, адзін з важнейшых – дзіцячая бальніца. Паўстаў у горадзе і новы жылы мікрараён з 23 шматкватэрных дамоў, на што пайшло 65 млрд. рублёў. Аднак гэта былі не прыярытэтныя траты. Галоўнай, як заўсёды, стала ўзвядзенне спартыўна-забаўляльнага комплексу з абавязковым Лядовым палацам на 2800 месц для гледачоў. Гэта арэна, а таксама зала гульнявых відаў спорту з басейнам каштавалі дзяржбюджэту амаль 150 мільярдаў.

Ды і ўвогуле сельская гаспадарка і хакей застаюцца сярод прыярытэтных і любімых сфер дзеючай улады. Для самога Маладзечна і яго жыхароў адметнымі падзеямі сталі рэканструкцыя цэнтральнай плошчы і поўная рэканструкцыя парка Перамогі, у якім з’явілася штучнае возера з вялізным фантанам, на што пайшло яшчэ 30 млрд. рублёў. А вось сведкі чарговага пампезнага калгаснага фестывалю сёлета звярнулі ўвагу на змрочныя твары кіраўнікоў айчыннага АПК розных узроўняў. Прэзідэнт напярэдадні “Дажынак” дазволіў сабе рэзкую крытыку аграрнай галіны, дзе, аказваецца, шмат яшчэ працуе розных “разгільдзяеў”.

На самым высокім узроўні афіцыйна прызналі, што эфектыўнасць сельскай гаспадаркі ў Беларусі ўсё яшчэ нізкая. Ды гэта было відавочна заўсёды, паколькі вытворчая дысцыпліна сярод калгаснікаў нізкая. Як толькі з’явяцца на руках грошы, многія з сялян затарваюцца бутэлькай, а ў дні выдачы заробкаў п’юць масава і па некалькі дзён. Акрамя гэтага, рэнтабельнасць аграрнай галіны нізкая пры велізарных укладаннях у яе, парушаецца тэхналогія вырошчвання культур і жывёлы, дагэтуль няма аптымальнай структуры пасяўных плошчаў.

Хоць за апошнія гады аб’ёмы вытворчасці сельскай гаспадаркі Беларусі выраслі больш чым на 50 %, аднак прадукты харчавання для насельніцтва дарагія, цэны на малако і мяса растуць. Планавалі атрымаць валавы збор збожжа 10 млн. тон, а ў выніку выйшла толькі 8,1 млн. тон у бункернай вазе. Лічбу атрыманай ураджайнасці – 34 цэнтнеры з гектара – успрымаеш з сумненнем, бо ў нас не пазбавіліся такой ганебнай з’явы, як прыпіскі і розныя махінацыі з улікам прадукцыі і пагалоўя. У самім Маладзечне прагучалі абяцанні (не ў першы ўжо раз) скараціць дзяржаўную падтрымку айчыннага АПК.

Вось “вертыкальшчыкам” прыйдзецца паламаць галаву над тым, якім чынам пры скарачэнні дапамогі вёсцы ў 2012-2015 гадах узняць там прадукцыйнасць працы аж да 167 % (!). За якія сродкі дзеючым калгасам пабудаваць па краіне цэлых 875 дорагакаштуючых сучасных ферм, 72 свінакомплексы і каля 800 новых зернесушыльных комплексаў пры ўмове абмежаваных фінансавых магчымасцей дзяржавы. Пра гэта будуць думаць пазней, а на прайшоўшых “Дажынках” усё праходзіла па адладжаным сцэнарыі.

Адзінае, што делегацыя хлебаробаў Віцебшчыны (больш за 100 чалавек) прыехала ў Маладзечна пасля бяссоннай ночы, а пражывала па суседстве – ў гасцініцы Вілейкі. На галоўнай сцэне з амфітэатрам (каштавала больш за 7 млрд. рублёў) нязменнымі засталіся прызы лаўрэатам “Дажынак”: аўтамабілі з камп’ютарамі і іншымі падарункамі, а таксама канцэрт айчынных “зорак эстрады”. За ўсю гісторыю на Віцебшчыне свята прымалі толькі Полацк і Орша, цяпер пытанне: хто з гарадоў у нас стане трэцім у 2014 годзе і атрымае такую шчодрую дзяржаўную падтрымку на развіццё сваёй інфраструктуры, якая іншым і не снілася.

## Дзень за днём

**Як заўсёды, у Беларусі заднім чыслом тарыфы ЖКГ урад прывязаў да курсу долара. На чарзе новая дэвальвацыя беларускага рубля. Пасля 12 дзён росту курс айчыннай валюты ў абменных пунктах зноў пачаў падаць. Беларускі ўрад разлічвае атрымаць ад МВФ чарговы крэдыт памерам ад 3 да 7 мільярдаў USD , а таксама другі транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. На фоне зніжэння агульнай злачыннасці па краіне вельмі высокай застаецца колькасць прапаўшых без звестак людзей, не было вядома аб месцазнаходжанні амаль 2400 чалавек. Кіраўнікі абласцей палічылі некарэктным рашэнне аб бясплатным праездзе студэнтаў толькі ў Мінску.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Савет бяспекі ААН пачаў разгляд заяўкі Палесціны аб прыняцці аўтаноміі ў члены арганізацыі ў якасці паўнапраўнай суверэннай дзяржавы.

**Украіна.** Прэм'ер Мікалай Азараў паведаміў, што Масква згадзілася зменшыць цану на газ і пагадзілася на свой ўдзел у новым трохбаковым кансорцыуме ЕС, Украіна і"Газпрам".

**Германія.** У берлінскім офісе "Газпрама" і яшчэ ў 9 краінах ЕС прайшлі раптоўныя вобыскі, расійскага манапаліста падазраюць у нядобрасумленнай канкурэнцыі.

**Афганістан.** Услед за забойствам экс-прэзідэнта Рабані ў выніку выбуху бомбы ў правінцыі Герат у аўтобусе загінула 11 дзяцей і 5 дарослых.

**Расія.** З-за падзення цэн на нафту расійскі рубль упаў на 10-17 % адносна $ і еўра, так апусціўся і польскі злоты, аднак абодвум краінам сур'ёзныя праблемы не пагражаюць.

**Францыя.** Пасол краіны ў ААН Жэрар Аро папярэдзіў улады Ірана пра магчымыя ваенныя ракетныя ўдары, калі Тэгеран не спыніць развіццё свайго ядзернай праграмы.

**Балгарыя.** Па ўсёй краіне пракаціліся масавыя акцыі пратэсту балгар супраць цыганоў, калі мясцовы цыганскі барон на аўтамабілі збіў насмерць 19-гадовага юнака.

**Балівія.** Міністр абароны краіны Сесілія Чакон у знак пратэсту супраць разгону мірнай дэманстрацыі аб спыненні будоўлі дарогі ў запаведніку сышла ў адстаўку.

**Эстонія.** Прэзідэнт Томас Ільвес публічна адмовіўся ад павышэння заплянаванай яму зарплаты, заробкі эстонцаў самыя высокія на постсавецкай прасторы (1300 $ у месяц).

**Польшча.** У знак прымірэння былы прэзідэнт краіны Лех Валенса наведаў у шпіталі хворага на рак экс-лідара камуністычнай Польшчы генерала Война Ерузельскага.

**Аўстралія.** Урад краіны дазволіў жанчынам служыць у арміі добраахвотна на ўсіх пасадах без абмежаванняў, нават у войсках спецназа пры адпаведным здароўі.

**Швейцарыя.** Услед за суседзямі парламент краіны заканадаўча забараніў жанчынам-мусульманкам хаваць свой твар у публічных месцах, у транспарце.

**Украіна.** Сусветная поп-зорка Шакіра выступіла на адкрыцці ў Кіеве новага сучаснага футбольнага стадыёна. Адкрыццё такой жа супераэны ў Львове – 28 кастрычніка.

**Літва.** Легендарнаму баскетбалісту Арвідасу Сабонісу ў Каўнасе ўрачы ў мясцовым шпіталі выдалілі тромб сардэчнай артэрыі, ён перанёс клінічную смерць.

**Расія.** Упершыню ў кар'еры заслужаная артыстка РФ Алёна Свірыдава свой музычны хіт "Пока" з альбома "Сірэна, ці 12 гісторый" праспявала па-беларуску.

## Глыбоцкая згушчонка — ежа для донараў Малдовы




■ БелТА

**У Нацыянальным цэнтры пералівання крыві Малдовы донары папаўняюць сілы з дапамогай глыбоцкай згушчонкі.** «Цэльнае згушчонае малако з цукрам у бляшанцы і тубе вытворчасці ААТ „Глыбоцкі малочнаконсервавы камбінат"» уваходзіць у абавязковы набор прадуктаў харчавання, які атрымліваюць малдаўскія донары пасля здачы крыві і яе кампанентаў. Акрамя згушчонкі, у гэты набор уключаныя малдаўскія сокі і шакалад, кансервы ды іншыя прадукты.

Паводле Міністэрства аховы здароўя Малдовы, беларуская згушчонка ўключаная ў прадуктовы набор для донараў, таму што гэта натуральны, высакаякасны прадукт, вельмі карысны для хуткага і паўнавартаснага аднаўлення складу крыві. Для вызначэння найбольш прыдатнай для донараў згушчонкі цэнтр пералівання крыві нават ладзіў тэндар, які і выйграў малдаўскі дылер ААТ «Глыбоцкі малочнаканcервавы камбінат».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Маладзечна.** Юбілейны рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2011" абышоўся бюджэту Беларусі ў рэкордную суму – 708 мільярдаў рублёў.

**Брэст.** Каб грамадскі транспарт не быў стратным, заявіў віцэ-прэм'ер А. Калінін, кошт адной паездкі трэба падняць да 1200 рублёў у рэгіёнах і да 1700 руб. – у Мінску.

**Гродна.** Пасля вяртання з Варшавы карэспандэнту "Газеты выборчай" Андрэю Пачобуту забаранілі выезд за мяжу і змяняць месца жыхарства без дазволу МУС Беларусі.

**Магілёў.** Вясной 2012 года ў СЭЗ "Магілёў" павінен пачаць выпуск падгузнікаў новы і першы ў РБ аўтаматызаваны завод, фірма-інвестар з Турцыі ўклала ў яго 4 млн. еўра.

**Мінск.** У першым айчынным доме-хмарачосе "Ветразь" з 32 паверхаў нават аднапакаёвая кватэра будзе каштаваць 1 млрд. рублёў, здача гэтага аб'екта ў сакавіку 2012 года.

**Баранавічы.** У лакаматыўнае дэпо даставілі са Швейцарыі першую з 4-х электрычак фірмы "Stadler" для будучых рэгіянальных ліній Беларускай чыгункі, запуск у 2012 годзе.

**Мазыр.** З мясцовай калоніі № 20 ўцяклі двое асуджаных, праз суткі раніцай затрымалі 23-гадовага гамяльчаніна, даўжэй шукалі 33-гадовага жлобінца, асуджанага за разбой.

**Мінск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў не выключыў восенню сацыяльны выбух у Беларусі, палітыку забаранілі пакідаць межы беларускай сталіцы.

**Бабруйск.** Ураджэнка горада Наталля Малашанка стала ў РБ першай ваеннай лётчыцай, яе размеркавалі служыць памкампалка ў 50-ю змешаную авіябазу ў Мачулішчы (Мінскі р-н).

**Валожын.** Днём у вёсцы Стайкі жыхар райцэнтра на аўто смяротэльна траўміраваў 6-гадовую дзяўчынку з Мінска, на дарогах краіны загінулі за 3 дні яшчэ 15 пешаходаў.

**Жодзіна.** На свяце машынабудаўнікоў БелАЗа здзівіў усіх беларускі асілак Вячаслаў Астапенкаў, які скрануў з месца 30-тонны буйнагабарытны самазвал завода.

**Масты.** Адразу тры літоўскія фуры, гружаныя цэглай, сутыкнуліся ля маста праз Нёман, у выніку здарэння загінуў адзін з літоўскіх вадзіцеляў у кабіне МАНа.

**Гродна.** На будынку аблвыканкама адкрылі памятную шыльду, прысвечаную колішняму губернатару Пятру Сталыпіну, які стаў потым расійскім царскім прэм'ер-міністрам.

**Смаргонь.** Паблізу літоўскай граніцы пагранічнікі затрымалі 23-гадовага грузіна з Тбілісі, які хацеў незаконна праз Літву з дапамогай компаса і карты трапіць да свайго сябры ў Галандыі.

**Магілёў.** 13-гадовая школьніца Ліда Заблоцкая прадставіць Беларусь у сёлетнім фінале міжнароднага дзіцячага конкурсу песні "Еўрабачанне" пасля перамогі на адборы ў РБ.

## У Беларусі для паездак у аўтобусах будуць прымяняцца электронныя білеты

■ Марына Носава, БелаПАН

**Рашэнне аб гэтым утрымліваецца ў пастанове Савета міністраў № 1323 ад 4 кастрычніка 2011 года.**

Як паведаміла прэс-служба ўрада, пастанова ўносіць дапаўненні ў правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў. Зараз пры выкананні аўтамабільных перавозак пасажыраў у рэгулярных зносінах можа прымяняцца электронны білет. У ім будзе інфармацыя пра аўтамабільную перавозку пасажыра ў электроннай лічбавай форме.

Рэалізуюцца электронныя білеты пры дапамозе інфармацыйных сістэм, якія дазваляюць забяспечыць прамы доступ да базы даных раскладаў руху аўтобусаў па маршрутах, наяўнасці свабодных месцаў і іншай інфармацыі аб умовах аўтамабільнай перавозкі ў рэгулярных зносінах.

Пры афармленні электроннага білета яму аўтаматычна прысвойваецца нумар, па якім улічваецца выкарыстанне дадзенага электроннага білета. У электронным білеце ўказваюцца прозвішча і імя пасажыра. Пры афармленні электроннага білета пасажыру па яго патрабаванні павінен быць выдадзены білет на папяровым носьбіце.

Пастановай № 1323 устаноўлена, што аўтобусы для перавозак пасажыраў у рэгулярных зносінах, па прапанове замоўцы перавозак, могуць быць дадаткова абсталяваны апаратурай спадарожнікавай навігацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Разгляд справы па выбуху ў метро віцяблян Канавалава-Кавалёва можа скончыцца ў сярэдзіне лістапада, паведаміў старшыня Вярхоўнага суда РБ В. Сукала.

**Сянно.** Абласны камітэт дзяржкантролю выявіў, што за 3 гады будаўніцтва нават фундамент не ўзвялі для новай школы ў вёсцы Літусова, яе ўвод быў намечаны сёлета.

**Лепель.** У ліку шасці па краіне на базе мясцовага лясгаса пачаўся эксперымент па продажы паляўнічых пуцёвак праз Інтэрнэт, гэта сістэма ў РБ будзе паўсюдна з 2012 года.

**Орша.** Інвестарамі праекта па ўзвядзенні на тэрыторыі авіярамонтнага завода транспартна-лагістычнага цэнтра сталі кампаніі з Ганконга і Кітая, сюды пойдуць кітайскія тавары.

**Полацк.** У арганізацыях трэста "Полацксельбуд" пачаўся адток рабочых, зацягваецца здача аб'ектаў, упалі тэмпы будаўніцтва і заробкі, складанае фінансавае становішча.

**Віцебск.** Толькі ў 1-м паўгоддзі на Віцебшчыне на вытворчасці загінула 16 чалавек, з іх 4 – нападпітку, 51 работнік атрымаў цяжкія траўмы, выявілі 3185 парушэнняў правіл ТБ.

**Новалукомль.** На базе мясцовай ГРЭС завяршыўся рэспубліканскі семінар па пытаннях сацыяльнай падтрымкі насельніцтва і ўдасканальвання працы са зваротамі грамадзян.

**Паставы.** На працягу лета прыватны мэблевы цэнтр на 25 % павысіў заробкі сваім работнікам, сярэдняя зарплата ў больш тысячы працуючых перавысіла 2 млн. рублёў.

**Друя.** Жыхароў гарпасёлка парадавала, што аблвыканкам вырашыў пабудаваць для іх у 2012 годзе грамадскую лазню, такі ж аб'ект намечаны і ў Коханаве Талачынскага раёна.

**Віцебск.** На бройлернай птушкафабрыцы чакаюць групу экспертаў пасля ўключэння ў лік прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі ўрада Беларусі за дасягненні ў галіне якасці 2011 года.

**Расоны.** Упрыгожваннем райцэнтра стаў фантан, зроблены каля абноўленай гасцініцы, дзе замянілі вокны, абсталявалі санвузлы, паставілі душавыя і тэлевізары ва ўсіх пакоях.

**Віцебск.** Міліцыя канфіскавала ў жыхара горада больш за 700 $, 470 еўра, 25 тыс. расійскіх і 130 млн. беларускіх рублёў, атрыманых ад незаконнай куплі-продажу замежнай валюты.

**Орша.** Усім работнікам ільнокамбіната дырэкцыя выдала па 250 тыс. рублёў на закуп гароднiны на зіму, дадаткова падтрымалі матэрыяльна шматдзетныя і бедныя сем'і.

**Шаркоўшчына.** Работнікі райгазеты "Кліч Радзімы" сабралі 10 тон буракоў для калгаснай скаціны, прымусова ганяюць на палеткі і работнікаў іншых устаноў, прадпрыемстваў.

**Віцебск.** У адной з кулінарый горада пакупнікоў шакіраваў сыравэнджаны кумпяк без косткі па цане 418 тысяч рублёў за 1 кг, нават звычайнае сала падаражэла да 60 тысяч.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Вольга Лукшыц, Сямён Левы/ АПБ

# Колькі шэрых жураўлёў адпачывае на Ельні гэтай восенню


*Жураўлі на Ельню ляцяць. Фота В. Кавалёнак*


**Назіральная вышка заказніка «Ельня» побач з в. Канахі.** *Фота В. Лукшыц.*

Каманда з супрацоўнікаў Аховы птушак Бацькаўшчыны (АПБ), арнітолагаў і захавальнікаў Тэрыторыі, Важнай для Птушак (ТВП) «Балота Ельня» (Шаркоўшчынскі і Мёрскі р-ны) правяла адзін з апошніх верасnёвых вечароў на вышках, размешчаных побач з балотам Ельня. Усяго ў гэты дзень на пяці існых вышках можна было бачыць 28 чалавек з трубамі і біноклямі, якія памкнуліся за тры гадзіны да заходу сонца правесці ўлік шэрых жураўлёў, якія злятаюцца на начлег на балота. Падобная ўвага да жураўлёў не была выпадковай: адзін з найбольш важных крытэраў, якія вызначаюць статус ТВП для Ельні, – менавіта высокая колькасць жураўлёў, што спыняюцца тут падчас міграцыі. Арганізаваўшы адначасовы улік з вышак, удзельнікі змаглі прагледаць практычна ўсе балоты і весці ўлік жураўлёў у сваім сектары. Некаторыя вышкі размяшчаюцца практычна на краі балота, з іх можна было назіраць жураўлёў, якія не толькі ляцяць з палёў, але і бачыць, дзе яны садзяцца.

Уліку папярэднічаў маніторынг колькасці жураўлёў захавальнікамі, якія паведамлялі пра з'яўленне птушак у сакратарыят АПБ. Інфармацыя пра бягучы стан міграцыі жураўлёў дазволіла правесці аднячасовы ўлік у перыяд максімальнай колькасці.

**У выніку ўлікаў колькасць жураўлёў склала больш за 4000, таксама было ўлічана каля 1000 белалобых гусей.** З вышкі побач вёскі Ліпна назіралі вялікую скупнасць жураўлёў, каля 1000 птушак, якія ляцяць на начлег на балота Жада, якое знаходзіцца побач з балотам Ельня. Жада можа стаць патэнцыйным ТВП. Варта адзначыць, што адначасовы ўлік з усіх вышак быў праведзены ўпершыню, раней для Ельні паказвалася колькасць 2000-3000 жураўлёў падчас міграцыі (колькасць жураўлёў, неабходная для прысваення статуту ТВП, складае 1500). Аднячасовы ўлік жураўлёў быў адзначаны ў прэс-рэлізе, які падводзіць вынікі Еўрапейскіх дзён назіранняў за птушкамі, што распаўсюджваюцца сярод краін-удзельніц.

Досвіткам птушкі разлятаюцца на палі, дзе была прыбрана кукуруза. Палова жураўлёў, якія начуюць на балоце, раніцай накіравалася на палі побач Верхнядзвінска, хоць для гэтага прыйшлося пераадолець 18 кіламетраў у адзін бок.

Улік адбыўся ў рамках праекта **«Выратуем Ельню разам!»**, падтрыманым ІП «Кока-Кола Беўрыджыз Беларусь». Высокая колькасць птушак, якія мігруюць, як нельга лепш пацвярджае поспех мерапрыемстваў па аднаўленні гідралагічнага рэжыму заказніка «Ельня».

Выказваем падзяку ўдзельнікам улікаў, без дапамогі якіх правесці яго не сталася б магчымым. Адмысловая ўдзячнасць захавальнікам ТВП «Балота Ельня» — Яўгену Ліпскаму і Андрэю Шокелю, а таксама дырэктару ГПУ «Ельня» Івану Барку, якія змаглі задзейнічаць аўтатранспарт для правядзення ўлікаў.

■ Алена Садоўская, *WildLife.by / Ахова птушак Бацькаўшчыны*

# Лёс балота Жада ў руках мёрскіх уладаў

**У Беларусі падыходзіць да канца маштабны экалагічны праект «Клімат і біяразнастайнасць», які даў другое жыццё больш чым дзясятку асушаных, дэградаваных балот. З 2008 года ён ажыццяўляецца ў нашай краіне сіламі грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).**

Парушанае балота Жада, размешчанае на стыку Мёрскага і Шаркоўшчынскага раёнаў Віцебскай вобласці, — апошняе ў спісе на аднаўленне ў рамках праекту. Вялікіх памераў (плошчай 5700 га), некалі яно на ўсю акругу славілася сваімі журавіннікамі. Папулярнасці яму дадавала суседства з вядомым не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі найбуйнейшым верхавым балотам Ельня. З гэтым водна-балотным масівам Жада ўтворыць адзіны комплекс, уразлівы і далікатны, які чула рэагуе на любыя змены.

Гэтак жа, як і Ельню, Жаду не абышла бокам разбуральная па сваёй сіле меліярацыя. Спачатку балота спрабавалі асушыць для патрэб лясной гаспадаркі. Але на бедных калíем і фосфарам тарфяных глебах хвоі не сталі расці хутчэй. Грошы, і немалыя, папросту закопвалі ў зямлю, і ад непрадуктыўнай ідэі прыйшлося адмовіцца. Затым вялікі кавалак у цэнтральнай частцы «адшчыкнулі» пад распрацоўку торфу. Аддадзеныя пад торфаздабычу 185 гектараў у даважку да лясной меліярацыі адчувальна адбіліся на агульным стане балота. Тарфянішча пачало хварэць, чэзнуць. А наогул гісторыя з яго асушваннем цягнецца з XIX стагоддзя…


**Балота Жада. Так будуюць перамычкі.**

Аднак, нягледзячы на гэтыя, здавалася б, «неапеработныя» ўмяшанні, Жада прадэманстравала дзіўную жыццеўстойлівасць. Яна нават функцыі, уласцівыя здароваму балоту, здолела захаваць. І хай з вялікай цяжкасцю, але працягвае рэгуляваць водны рэжым у рэгіёне, акумуляваць у сабе прэсную ваду, адсарбаваць з навакольнага асяроддзя вуглякіслы газ, быць крыніцай журавін для мясцовых жыхароў. Жада валодае добрым патэнцыялам для аднаўлення. Таму яе і ўключылі ў дзяржаўную праграму развіцця асоба ахоўваемых прыродных тэрыторый. Самае позняе ў 2014 годзе тут будзе створаны водна-балотны заказнік рэспубліканскага значэння. Пакуль што тэрыторыя адмыслова для гэтых мэт зарэзервавана Віцебскім райвыканкамам.

Усё лета, нягледзячы на гарачае надвор'е і багацце камароў, на балоце Жада кіпела праца: будаўнікі УП «Мёрская ПМС» майстравалі плаціны. Насыпныя земляныя з драўлянымі калямі канструкцыі рабілі з мясцовых матэрыялаў — хвоі, якая больш даўгавечная, чым бяроза, і ў якасці напаўняльніка выкарыстоўвалі торф. Яны не даюць вадзе пратачыца і такім чынам здольныя падняць яе ўзровень на 30-40 см. На дадзены момант заканчваецца будаўніцтва апошніх з 40 запланаваных перамычак.

Праца па збудаванні плацін фізічна выматвальная, бо толькі да месца будоўлі неабходна ісці па балоце не менш за гадзіну. Перамычкамі маюць быць перакрытыя ўсе меліярацыйныя каналы. Калі гэта адбудзецца, узровень вады на выпрацаваных участках багны падымецца да паверхні глебы. Паступова адновіцца парушаны гідралагічны рэжым. Жада зможа лепш паглынаць $CO_2$ з атмасферы. На гэтай тэрыторыі спыніцца ў гарачую пару тарфяныя пажары. У балота адродзіцца кліматарэгулюючая функцыя, і нават у моцную засуху яно, як раней, зможа астуджаць і ўвільгатняць прылеглыя тэрыторыі, змякчаючы клімат.

Сюды вернуцца расліны, якія раней тут раслі, у тым ліку і «чырванакніжныя». Тэрыторыя зноў стане прыдатнай для рэдкіх птушак — вялікага падворліка, чорнага бусла, кагалы, малога падворліка, белай курапаткі, шэрага жураўля, залацістага сяўца, пугача, балотнай савы, вялікага краншнэпа. Усе яны, між іншым, уключаны ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.


**Балота Жада. Неўзабаве такія канструкцыі ўзвядуць на ўсіх меліярацыйных каналах.**

Па ідэі, абнаўленне гідралагічнага рэжыму балота павінна быць завершана бягучай восенню. Аднак таму замінае адно «але»:

– Балотны масіў «Жада» падзелены адміністрацыйнай мяжой на дзве часткі. Адна палова знаходзіцца ў Шаркоўшчынскім раёне, другая — у Мёрскім, — распавядае дырэктар АПБ Віктар Фянчук. — У цяперашні момант плаціны пабудаваны толькі ў Шаркоўшчынскім рэгіёне, улады якога падтрымалі рашэнне пра аднаўленне гідралагічнага рэжыму. Мёрскі ж райвыканкам з узгадненнем работ пакуль марудзіць. Таму цяпер мы ў чаканні адказу. Як толькі кіраўніцтва Мёраў дасць «дабро», можна будзе прыступіць да забалочвання і на другой частцы тарфянішча. Марудзіць нельга, бо толькі пасля гэтага балотны масіў пачне функцыянаваць як адзіная экасістэма…

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны»** - гэта буйная прыродаахоўная грамадская арганізацыя Беларусі, якая працуе ў галіне аховы біяразнастайнасці і экалагічнай адукацыі. Яна налічвае больш за 3000 чальцоў, звыш 120 школьных клубаў «Крылаты дазор» і 14 рэгіянальных аддзяленняў у розных кутках краіны.



Уладзімір Скрабатун

**Прапанаваная для обмеркавання тэма вельмі блізкая да тых, якія ўжо былі змешчаныя ў нашай газеце. Напрыклад, турызм вельмі блізкі да тэмы бізнесу, гэта і ёсць бізнес – турыстычны. Турыстам патрэбныя для агляду і наведвання не толькі помнікі даўніны, прыгожыя прыродныя ландшафты, але і гасцініцы, аквапаркі, кавярні... Але апошняга не стае. Няма каму укладваць сур'ёзныя інвестыцыі, бо няма прыватнай уласнасці на зямлю.**

**Нам прыходзіцца задаволіцца тым, што турысты транзітам праязджаюць праз Глыбокае, надаўшы азнаямленню з горадам усяго пару гадзінаў. Нам жа хацелася б, каб турысты спыняліся тут на некалькі дзён: начавалі ў нашых гасцініцах, харчаваліся ў нашых кавярнях, набывалі ў якасці сувеніраў нашую прадукцыю... Карацей кажучы, пакідалі б свае грошы ў Глыбокім і Глыбоцкім раёне.**

**А што мы можам прапанаваць на Глыбоччыне айчынным і замежным турыстам у святле пазітыўнага бачання будучыні Беларусі?**

# Турызм на Глыбоччыне

## Перспектыўна альбо марна?

### Мы сядзім на золаце!

Якія асноўныя багацці Глыбоччыны? Здавалася б, вельмі простае пытанне! Зразумела, азёры і рэкі. Але не ўсе задумваюцца ці здагадваюцца, што далей, на поўдзень ад Варганскай гары, азёраў няма. Ёсць там пагоркі, лясы, рэкі, але азёраў няма. Жменька іх ёсць толькі на самым поўдні краіны, сярод палескіх балотаў. Сціплая ў іх прыгажосць… Нашыя паўночна-беларускія азёры надзіва маляўнічыя і прыгожыя, ляжаць сярод пагоркаў і лясоў.

З рэкамі нам пашанцавала менш. Усе нашыя рэкі якраз і пачынаюцца на Глыбоччыне, таму вузкія, мелкаводныя. Больш-менш салідная рэчка – Мнюта. Гэтая рэчка ўваходзіць у спіс рэчак краіны як перспектыўная для воднага турызму. Так, сапраўды, інтэрнэт "забіты" справаздачамі аб водных падарожжах, пачынаючы з возера Доўгага, далей, па рэчцы Ішанцы, – да возера Шо, потым па Шошы – да возера Пліса, адтуль па Мнюце, праз азёры Мнюта і Вялец, – да суткокі з ракой Дзісна, а то й да самай Заходняй Дзвіны, а потым хоць да Балтыйскага мора!

З лясамі ў нас усё цудоўна. Можна толькі назваць Галубіцкую пушчу – і гэтага дастаткова. Помнік прыроды! Разнастайныя краявіды. Грыбы, ягады, паляванне…

*– Вы сядзіце на золаце!–* сказаў мне ўвесну прадстаўнік ЮНЕСКА на Беларусі, які першы раз у жыцці завітаў у Глыбокае. *– Вам і згушчонка не патрэбная! Развівайце турызм! Я проста і не здагадваўся, што ў вас, у Глыбокім, стаяць такія два цудоўныя храмы.*

Так, наяўнасць помнікаў гісторыі і дойлідства на тэрыторыі нашага раёна найперш і прывабліває сюды шматлікіх турыстаў. Глыбокае і Мосар – нашыя асноўныя славутасці. А іх шматкроць больш!

У гэтай сувязі хацелася б нагадаць, што аўтар гэтага матэрыялу займеў першае месца сярод беларускіх журналістаў у конкурсе за распрацоўку турыстычнага маршруту ў намінацыі "Вандроўкі па Беларусі". Маршрут "Палацы і сядзібы на шляху Язэпа Драздовіча" атрымаў найвышэйшую адзнаку журы.

Распрацоўка гэтага маршруту з ксеракопіямі схемаў, апісанняў, публікацыяў у СМІ была аўтарам перададзеная ў Глыбоцкі райвыканкам з рэгістрацыяй у сакратара. Натуральна, праз месяц, па законе, я мусіў бы атрымаць адказ у пісьмовай форме з простым адказам "Нам гэта цікава!", альбо "Нам гэта не цікава!" Прайшоў месяц, два, паўгода, хутка год… Чакаю… Ды, ведаю, – марна! Няма чаго сказаць? А ў нас ёсць!

### Павінен быць нестандартны падыход

Вось просты прыклад: некалі пры шашы Полацк-Вільня на Пастаўшчыне было чыстае поле, побач – лес. Ніякай рэчкі, возера, ні старадаўняга палаца, ні старажытнага замка… Проста поле! І тут раптам з'яўляецца агратурыстычны комплекс "Салаўіны Гай". Страусы ў вальерах, звычайныя свінні ў загонах, алені, козы, трусы, фазаны… І кавярні.

У выхадныя шмат турыстычных аўтобусаў. Цікава! Нечакана! Прывабліва! Экзотыка! Глыбачане ездзяць сем'ямі – адпачыць і смачна паесці! І што, такое немагчыма было зрабіць на Глыбоччыне? Ну, у тым жа "Цэнтры Еўропы"! Толькі капіяваць тое можа й не трэба, можна вынайсці нешта сваё.



Агратурыстычны комплекс «Салаўіны Гай» на Пастаўшчыне. *Фота Ул. Скрабатуна*

### "Русалкі" возера Шо

Мінулагодняе лета (2010 г.) было спякотным… А тут тэлефануе з Мінска Генадзь Комель, наш даўні аўтар.

– Валодзя, хачу прыехаць на Глыбоччыну з экскурсіяй,– кажа ён. – Дапамажы з распрацоўкай маршрута да магілы Язэпа Драздовіча.

Зразумела: Лаўрынаўка, Ластавічы – з мальлельняй стараверaў, Кавалі – з арыгінальнай драўлянай царквой, Каралевічы – з магілай паэта Алеся Дубровіча, Папоўшчына – з прыгожай каменнай царквой, Галубічы, Малыя Давыдкі – з магілай Язэпа Драздовіча.

Паехалі. Паглядзелі. Едзем далей…

– Зараз паедзем праз Падсвілле, дзе на могілках стаіць помнік паўстанцу 1863 года Міхалу Фалькоўскаму,– паведамляю экскурсантам.

Божухны! Што тут пачалося… Самі ж ведаеце, што асноўны кантынгент экскурсантаў – жанчыны. У аўтобусе чалавек 45, а мужчынаў, як паказвае досвед правядзення такіх мерапрыемстваў, заўсёды 5-7, сярод якіх і кіроўца аўтобуса. Усе кабеты затупалі нагамі, узнялі лямант…

– Хопіць нас вазіць па могілках! Нам сказалі, што мы едзем у тур па глыбоцкіх азёрах. Вязіце нас на возера Шо!

– Які маршрут мне замовілі, такі і сплanaваў. Усе пытанні – да спадара Комеля,– запярэчыў аўтар гэтых радкоў. – Сказалі б адразу, што Вас не цікавяць ні цэрквы, ні касцёлы, ні помнікі паэтам і мастакам… Вы прыехалі купацца! Пачалі б з Бегляца ў Глыбокім, потым – на возера Акунёва, далей – на возера Пліса, затым – самае глыбокае возера краіны Доўгае, а на заканчэнне – Шо. Якое пытанне? Няма пытанняў! Павязу Вас на Шо, калі Вам так млосна стала ў аўтобусе.

Вось і Шо! Прывёз на самае лепшае месца. Злева ад вёскі Шо – камяніста-пясчанае дно, неглыбока, метраў 60 ад берага – глыбіня «ўсяго па шыю».

Зноў усе "бабы" кпяць: "А чаго тут пляжа няма?"

– Дык Вы хацелі, каб я загадзя прыехаў сюды і газонакасілкай прыбраў трыснягі і чарот, павысякаў хмызнякі? Вёска вымірае, няма каму купацца, раней было метраў 15 чыстага берага, цяпер усё зарастае… Пару метраў засталося.

– А вы не звяртайце увагі,– кажа адна кабета,– зараз усе увойдуць у ваду, стануць лагоднымі – і ніякіх кпінаў. А вам, мужчынам, выдзелім час пакупацца пасля жанчын…

Я адразу й не дапетрыў, чаму пасля жанчын? І тут я ашалеў! Жанчына, якая мне гэта тлумачыла, аказваецца, стаіць перада мной "у чым маці нарадзіла". Я сарамліва адвярнуўся ўлева… І там – усе кабеты без комплексаў! Я павярнуўся яшчэ лявей (кола замкнулася) – цэлае поле русалак! Толькі дзве маладыя дзяўчыны абвязаліся хусткамі.

І ўсё стала ціха, усе задаволеныя, вада – парнае малако, не выгнаць з возера…

І тут у аўтара ўзнікла "геніяльная ідэя"… Вось яно – залатое дно! Кландайк! Нудысцкі пляж? А чаму б і не! Возера Шо – мелкае, вада чыстая і цёплая… З сярэдзіны чэрвеня да сярэдзіны жніўня – самая спёка. Сезон! Добраўпарадкаваць метраў 100 берага пад пляж, паставіць колькі летніх домікаў, арганізаваць харчаванне і – прымай гасцей. Чалавек 10 з вёсак Шо і Івесь знайшлі б сабе работу (павары, экскурсаводы, бухгалтары, прыбіральшчыцы…) Для большай прывабнасці можна для пастаяльцаў арганізаваць конныя экскурсіі па ваколіцах Цэнтра Еўропы. І ёсць каму! Якаў Серафімовіч гэтым ужо даўно займаецца.

Вы думаеце, што гэта канец гісторыі? Не! Пасля возера Шо паехалі на возера Доўгае. Проста так, паказаць самае глыбокае возера краіны. Казаў я, прасіў Генадзь Комель: "Не купацца! Глыбока! Патопіцеся! Вада сцюдзеная, гэта вам не Шо!"

Ды хто там слухаў! Зноў тая ж карціна. Пад сорак голых русалак рынуліся ў возера Доўгае. Ну, мінчанкі!

Едзем у бок Глыбокага… Кажу: "Тут на беразе возера Акунёва стаяў маёнтак, дзе нарадзіўся слынны пісьменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, аўтар экранізаванага твора "Знахар".

Дастаткова было ўсім пачуць слова "возера", як паступіла каманда спыніць аўтобус… Аўтобус спыніўся на пляцоўцы для стаянкі аўтамашын. Усе рынуліся ўніз, да возера… Гляджу я: два мужыкі, якія на гумовай лодцы далекавата вудзілі рыбу, зматалі вуды і давай бліжэй падграбаць да русалак. Нечуванае відовішча!



*Заканчэнне на стар. 11*

# З законам жарты кароткія!

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Жылі-былі тры таварышы, нават не таварышы, а проста знаёмыя, кожны займаўся сваёй любімай справай, але аб'ядноўвала іх адно захапленне – рыбалка, толькі вельмі шкада, што не зусім законная. І вось 4 кастрычніка сустрэліся два сябры, Мікалай і Валерый, і, пагаварыўшы, вырашылі палавіць восеньскай рыбкі: рыба ўвосень тоўстая і смачная, асабліва карась. Для такіх спраў у Мікалая захоўваліся дома сеткі, а Валерый папытаў у знаёмага лодку, ну а возера ў Глыбоцкім раёне абраць можна. Вядома, ехаць на возера, дзе шмат рыбакоў, сябры не рашыліся, а вось возера Кур'янаўскае, якое размешчана ў лесе, падышло ідэальна. Вакол лес, возера багністае, падысці цяжка, таму і старонніх быць не павінна, – так думалі гора-рыбакі, а дарма. Яшчэ не сцямнела, а нашы сябры ўжо паставілі сеткі: у возеры шмат карася і шчупака, значыць, улоў будзе добрым. Надвор'е стаіць прахалоднае і сеткі могуць пастаяць не адзін дзень. Толькі не думалі сябры, што работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ўжо ўзялі пад назіранне дадзены вадаём. Прайшлі суткі, другія, але рыбакоў усё няма. І вось каля 8 гадзін раніцы 6 кастрычніка нашы героі прыехалі да возера, але ўжо ўзялі трэцяга таварыша, Сяргея, бо трэба, каб хтосьці стаяў на «стрэмі», а раптам «патруль-аблава». Але сябры нават не здагадваліся, што ўсе іх дружныя дзеянні бачаць работнікі інспекцыі. Як ні імкнуліся нашы «гора-браканьеры», але вынік усё адно адзін: усе трое былі затрыманы са здабыткам. Зараз за незаконную здабычу рыбы прыйдзецца адказаць перад законам, дарагім станецца здабыты карась, усяго 5 кг, але каштаваць ён будзе як 100 кг.

А жыхар в. Саранчаны Пастаўскага раёна грамадзянін Акунёў 6 кастрычніка гэтак жа памкнуўся на рыбалку, бо на возеры ў яго ўсталяваны мярожы, трэба рыбу забраць. Жонка нашага героя кажа, можа, не хадзі ты, Вася, на возера шпацыраваць, раптам інспекцыя прыедзе і зловіць цябе. Вася ў адказ: дзе я, а дзе інспекцыя, кіламетраў 100 будзе. Але так думаў Вася, а не работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Вось ужо і змярканне пачало апускацца над возерам, Вася давай даставаць свае браканьерскія снасці, а рыбкі ўсё няма, затое работнікі інспекцыі тут як тут. Ох і здзівіўся наш герой! А адзнаку яго дзеянням дасць Пастаўскі раённы суд.



Імёны і прозвішчы нашых «гора-браканьераў» зменены, але гісторыі гэта сапраўдныя, і штрафы таксама, таму аматарам дармавой рыбкі і мяса работнікі інспекцыі яшчэ раз нагадваюць: з законам жарты кароткія.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Насця Пезік – пераможца Віцебскай вобласці ў жаночай барацьбе

■ Яўген Самсонаў

**Падчас паказальных выступаў барцоў на свяце "Дзень без аўтамабіля", якое праходзіла ў Глыбокім, гледачы былі сведкамі цікавага і захапляючага відовішча. Дзяўчынка шпуляла мясцовых знакамітых аўтарытэтаў грэкарымскай барацьбы, нібыта мятлікаў: толькі падэшвы іх барцовак у паветры мільгацелі.**



Многія пазайдросцілі яе майстэрству адзінаборства. Хто гэта юная, смелая, рывабная, адважная дзяўчына? Знаёмцеся. Узыходзячая зорка спартыўнай славы Глыбоччыны, вучаніца 10 "Б" класа Глыбоцкай СШ № 1 Насця Пезік.

Па праўдзе, Насцю з маленства больш вабіла плаванне. Але паколькі ў Глыбокім няма басейна, то вырашыла паспрабаваць займацца барацьбой. Як звычайна бывае, не ўсё атрымліваецца адразу. Праз месяц кінула гэты занятак, але, параіўшыся з бацькам, вырашыла даказаць, што яна асоба, – і зноў пайшла ў школу барацьбы. Праз чатыры гады ўпершыню прыняла ўдзел у абласных спаборніцтвах. І зноў няўдача – прайграла. Але гэта не пахіснула веру ў свае магчымасці. Як сапраўдны спартовец, Насця ўпарта рыхтавалася да наступных спаборніцтваў і стала прызёрам абласнога турніру. Трэцяя вандроўка на абласныя спаборніцтвы была выдатнай. Насця не пакінула ніякіх шанцаў сваім суперніцам і стала пераможцам у сваёй вагавай катэгорыі.



# Зіма будзе вельмі сцюдзёнай. Еўропа ўваходзіць у новы малы ледавіковы перыяд, калі значна ўпадзе сярэднесутачная тэмпература паветра

**Будучая зіма ў Еўропе будзе вельмі халоднай, папярэдзілі сёння брытанскія метэаролагі. Адпаведныя высновы навукоўцаў ужо прадстаўленыя міністрам ўрада Злучанага каралеўства.**

«Варта рыхтавацца да моцных і зацяжных халадоў», — прагназуюць яны.

Метэаролагі зрабілі свае высновы на аснове аналізу акіянскіх змен тэмпературы і інтэнсіўнасці плыняў Атлантычнага акіяна, якія, на думку навукоўцаў, вызначаюць характар зімы ў краінах Еўропы.

Больш за тое, альтэрнатыўнае фундаментальнае даследаванне Метэаралагічнай службы Вялікабрытаніі, якая ўваходзіць у склад Міністэрства абароны, паказвае, што Еўропа, «магчыма, уваходзіць у новы малы ледавіковы перыяд, калі значна ўпадзе сярэднесутачная тэмпература паветра».

Такое рэзкае змяненне клімату Еўропы ўжо назіралася 300 гадоў таму, калі незвычайна халодныя зімы сталі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

*БелТА*

# Сёлета ў Беларусі прынята прыблізна 200 дзяржаўных стандартаў

**Сёлета ў Беларусі прынята прыблізна 200 дзяржаўных стандартаў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 10 кастрычніка ў Мінску паведаміў старшыня Дзяржстандарта Валерый Карашкоў.**

Гэта стандарты на экспартна арыентаваную прадукцыю, стандарты ў мэтах развіцця тэхнічных рэгламентаў, на энерга- і рэсурсазберагальныя тэхналогіі, метады выпрабаванняў. Прыняты стандарты ў машынабудаванні, будаўніцтве, лёгкай і харчовай прамысловасці.

Як адзначыў Карашкоў, зацверджаныя дакументы ў асноўным прамое прымяненне еўрапейскіх і міжнародных норм. Узровень гарманізацыі з міжнароднымі стандартамі сёлета дасягнуў 71%.

За 2011-2012 гады плануецца прыняць прыкладна 300 стандартаў у будаўнічай галіне. «Праводзіцца праца, звязаная з прыняццем у гэтай галіне еўракодаў, міжнародных і еўрапейскіх стандартаў, стандартаў па будаўнічых матэрыялах і матэрыялах, аналагі якіх не вырабляюцца ў Беларусі, а таксама стандартаў у галіне выпрабаванняў», паведаміў Карашкоў.

Акрамя гэтага, прымаюцца стандарты ў галіне ўкаранення энергаэфектыўных тэхналогій, вытворчасці прадуктаў харчавання і іншых сферах дзейнасці.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# На абласныя "Дажынкі" на Віцебшчыне не хапіла грошай

Свята ўраджаю, якое праводзілася на Віцебшчыне паводле ініцыятывы старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца, сёлета адмянілі. Каб апраўдаць ужо ўкладзеныя ў добраўпарадкаванне райцэнтра грошы, вырашана ўсё ж правесці "Дажынкі", але толькі раённага маштабу.

Спачатку абласныя "Дажынкі-2011" адтэрмінавалі: раней абвяшчалася, што святкаванні ў Лёзне пройдуць у апошнія выходныя верасня. Потым іх перанеслі на 7 кастрычніка, але ўжо ў статусе раённага свята.

Пра тое, што абласное свята ў Лёзне не адбудзецца, мясцовым жыхарам афіцыйна не паведамлялі. Тамтэйшае афіцыйнае выданне "Сцяг перамогі" ўвогуле перастала закранаць гэтую тэму: калі яшчэ ўвесну там было шмат матэрыялаў пра перспектыўнае добраўпарадкаванне да абласнога свята ўраджаю, то цяпер лёзненцаў усяго толькі запрасілі на адкрыццё новай крамы ды новай аўтастанцыі. Яшчэ адрэстаўравалі Дом культуры, але гатэль у райцэнтры дабудаваць не паспелі, новы асфальт паклалі толькі ў цэнтры і платы пафарбавалі толькі з аднаго боку.

*Радыё Свабода*

## МНС інфармуе

**на 11.10.2011 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1062;
Гібель людзей – 153 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3989,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 50;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
Урон – 422 670 132 руб.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**17 – 23 кастрычніка 2011 г.**








## ПАНЯДЗЕЛАК, 17 кастрычніка



**06.00, 07.05, 08.10** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Новости.
**07.30, 08.25** Деловая жизнь.
**08.30** Культурные люди.
**09.10 "Робинзон"**
**10.05 "Маргоша"**
**11.00 "Дыши со мной"**
**12.10 "Папа напрокат"**
**14.00** Здоровье.
**14.30** «Я здесь живу».
**15.10, 19.20** Новости региона.
**15.30 "Корсиканец"**
**17.00 "Маргоша"**
**17.55 "Дыши со мной"**
**18.45** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55 "Робинзон"**
**21.00** Панорама.
**21.45** Командировка.
**22.00 "Широко шагая"**
**23.45** День спорта.
**23.55** Фильм «Бари Алибасов».



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.10** «Наше утро».
**09.10** Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Затерянный мир»**
**12.00** «Мясоеды против травоядных».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. «Участковый детектив».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Руслан Салей. Прерванный бросок».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** Премьера. **«Заключенный»**.
**23.10** Теория невероятности. «Секреты обольщения».
**00.00** «След».
**01.20-01.50** Ночные новости.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05 "Барвиха"**
**10.10** Альбарутения.
**10.40** Концерт «Mylene Farmer. Stade de France».
**12.35** Реальный мир.
**13.05 "Танго над пропастью"**. 1-я часть.
**14.40** Навіны надвор'я.
**15.10** «Женская лига».
**16.10** Врачебные тайны
**16.45** Мелодрама **"Нежная зима"** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**17.55 "Ты моя жизнь"**
**19.00 "Барвиха"**
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Женская лига.
**22.25** Овертайм.
**22.55** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**23.50** Мелодрама **"Нежная зима"** 1-я серия.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Большой город».
**11.15** «Дальние родственники».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 "Огонь любви"**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: **"МАМА НЕ ГОРЮЙ 2"**. Россия, 2005г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10 "Малая Масква»**:1с
**8:55** Прэс-экспрэс



**9:10** Беларускія лёсы: «Сяргей Законнікаў», дак. фільм
**9:40** ПраСвет
**10:10** Эксперт
**10:35 "Цудам ацалёны»**
**12:10** Дакументальная гадзіна: «Чэшская мара» ("" #e • eskэ sen), дак. фільм, рэж. Віт Клусак (Vнt Klusбk) і Філіп Рэмунда (Filip Remunda), 2004 г., Чэхія
**13:40** ПраСвет
**14:05** Беларускія лёсы: «Сяргей Законнікаў», дак. фільм
**14:35 "Цудам ацалёны»**
**16:10** «1945: год, які змяніў свет»: 2 серыя
**17:00 "Мой родны горад»**: 14 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Невядомая Беларусь: «Варганы», дак. фільм, рэж. Алег Дашкевіч, 2008 г., Беларусь
**18:30** Вагон
**18:40** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Дзеці-тулягі» : 2 серыя
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** «Восень браслаўскіх азёраў», дак. фільм, 2007 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55 "Цудам ацалёны»**
**23:30** Аб'ектыў
**23:55** Гарачы каментар

